Сведчаць дакументы

# Хроніка злачынстваў 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34, 37.*

***Працягваем змяшчаць пералік персанальных спраў вязняў турмы №26 у Вілейцы, якія былі перададзены ў 1941 годзе ў турму №1 УНКВД Разанскай вобласці без вязняў. Лёсы людзей, чые прозвішчы вы чытаеце, у большасці невядомыя.***

| №, прозвішча | год нар. | Калі, кім арыштаваны, паводле якога арт. крым. кодэксу. | У следстве (у чыім распараджэнні) або пакараны па якім артыкуле |
|---|---|---|---|
| 22. Гульвіцкая Міхаліна Андрэеўна | 48 год | 6.04.1941 Крывіцкі райаддзел НКВД | 14.06.1941 нарсуд I інстанцыі Крывіцкага р-на Вілейскай вобл. арт. 143, 155 КК БССР, 5 год |
| 23. Гулецкі Мікалай Самуілавіч | 1903 | 17.05.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 17.05.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 24. Горват Сцяпан Антонавіч | 1901 | 17.07.1940 Плiскі райаддзел НКВД БССР Вілейскай вобл. | 17.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74, 72, КК БССР, 8 год |
| 25. Горбач Наталія Піліпаўна | 1910 | 17.09.1940 Куранецкі райаддзел НКВД | 24.10.1940 Куранецкі раённы нарсуд Вілейскай вобл, арт. 217 КК БССР, 3 гады |
| 26. Гайковіч Ефрасіння Аляксандраўна | 1886 | 13.12.1940 нар. следчы Куране цкага р-на Вілейскай вобл. | 20.03.1941 Вілейскі абласны суд, арт. 34 КК БССР, 3 гады |
| 27. Герасімовіч Вікенцій Станіслававіч | 1912 | 29.05.1940 абласны пракурор Вілейскай вобл. | 28.03.1940 аблсуд г. Вілейкі, арт. 80 КК БССР, 10 год |
| 28. Гуніч Лукаш Васільевіч | 1906 | 20.05. 1941 нарсуд I інст. Крывіцкага р-на Вілейскай вобл. | 20.05.1941 нарсуд I інст. Крывіцкага р-на Вілейскай вобл. паст. ад 26.06.1940, 4 мес |
| 29. Душко Восіп Сідаравіч | 1874 | 28.01.1940 Пастаўскі райаддз. НКВД Вілейскай вобл. | 10.02.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 72 КК БССР, 5 год |
| 30. Жукоўская Алімпія Бенедыктаўна | 1900 | 4.09.1940 Радашковіцкі райаддзел НКВД | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74 КК БССР, 8 год |
| 31. Заблоцкая Анастасія Іванаўна | 1897 | 27.12.1940 II Аддзел НКГБ Вілейскай вобл. | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД, арт. 120 КК БССР, 8год |
| 32. Заяц Макс Майсеевіч | 1888 | 14.03.1940 Крывіцкі аддзел НКВД БССР | 21.08.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120 КК БССР, 3 гады |
| 33. Замкавіч (Занкавіч—?) Іван Іванавіч | 1913 | 16.06.1941 нарсуд Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 16.06.1941 нарсуд Куранецкага р-на Вілейскай вобл., арт. 38,37 КК БССР, 1 год 6 мес. |
| 34. Зялінскі Іван Аляксандравіч | 1890 | 13.08.1940 Пастаўскі райаддзел НКВД БССР | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74 КК БССР, 8 год |
| 35. Зім(н)оха Ігнат Іванавіч | 1921 | 30.05.1941 нарсуд Крывіцкага р-на Вілейск.вобл. | 30.05.1941 нарсуд I інст. Крывіцкага р-на паст. ад 26.06.1940, 3 мес. |
| 36. Ількевіч Сяргей Ільіч | 1920 | 8.04.1941 нарсуд Куранецкага р-на Вілейск.вобл. | 8.04.1941 нарсуд Куранецкага р-на, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 37. Кавяра Іосіф Валяр'янавч | 1902 | 13.09.1940 III аддз.упраўлен. НКВД Вілейскай вобл. | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД, арт. 74, 8 год |

*Працяг будзе.*

## Разнастайнае ў рэгіёне жыццё

### Людзі з інтэрнатаў рызыкуюць па-буйному

***СМАРГОНЬ. Аднавілася кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва.***

ЖБК-15 дзяржава выдзеліла каля 10 мільярдаў рублёў. Дзевяціпавярхоўка ўжо стаіць, вось-вось пачнуцца ўнутраныя работы. Паўтара мільярда атрымаў ЖБК-16. Шасцідзесяцікватэрны дом толькі пачаў будавацца, і ці хопіць грошай— невядома.

Але вядома іншае. Людзі, якія цяпер жывуць у інтэрнатах і будуюць кватэры, рызыкуюць па-буйному. Некаторым на працягу трыццаці гадоў штомесяц трэба плаціць дзяржаве мільён рублёў (без уліку камунальных паслуг).

У горадзе будуецца сярэдняя школа №7. СШ №5, у якой вучацца дзеці з Усходняга мікрараёна, перагружана ў два разы. Плануецца хутка ўзвесці і прыбудову да школы-інтэрната. Усё лепшае— дзецям.

*Аддзел інфармацыі.*

### Жывая зацікаўленасць

***МАЛАДЗЕЧНА. Бульба ўрадзіла, а вось з попытам на яе— праблемы. То закупачныя цэны нізкія, то што-небудзь яшчэ.***

У калгасе "Прагрэс" вырашылі адным стрэлам забіць двух зайцоў: па заключаным з заводам "Спадарожнік" дагаворам, рабочыя, занятыя на ўборцы бульбы, атрымліваюць 15 працэнтаў ад накапанага. І ўсё. Ніякіх грошай за работу. Ніякага харчавання і размяшчэння. Свой аўтобус прывозіць і адвозіць людзей. А ў выніку— усе задаволеныя. І калгас, бо бульба выбіраецца падчыстую і часткова знікаюць праблемы з яе рэалізацыяй, і завадчане, бо вяртаюцца з работы з мяшкамі клубняў.

*Алесь ЛІПСКІ.*

### Гаспадар вялікага дома

***АШМЯНЫ. У раёне шматпавярховак ужо не чапляюць шыльды: "Дом узорнага ўтрымання". Там, дзе жыве Васіль Кліменцьеў, надпіс не патрэбны.***

Былы жыхар Крайняй Поўначы дзесяць гадоў на Беларусі. На пытанне — навошта каля кожнага пад'езда разбіў шыкоўныя клумбы, высаджвае аазіс з дрэў — адказвае проста: "Там, дзе я пражыў большую частку свайго жыцця, — холад, палярная ноч, карлікавыя расліны. А я люблю прыгажосць."

Пенсіянер-дзівак за свой кошт можа ўставіць выбітае шкло ў пад'ездзе суседняга дома, адзін падмесці ўсе падвалы. Тут ніколі не відаць нічога зламанага — усё даглядаецца і своечасова рамантуецца майстрам.

*Валянціна Драздова.*

### 10 метраў для чэмпіёна і сям'і

***МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіён Еўропы сярод інвалідаў Ігар Фартунаў прывёз з Паралімпійскіх гульняў тры медалі: два сярэбраныя (скачкі ў даўжыню і трайны) і бронзавы (мнагаборства). На стометроўцы да бронзы крыху не дацягнуў— 4 месца.***

***—У працоўнай кніжцы запіс— лёгкаатлет?***

—Інваліды ў спорце не маюць статус прафесіяналаў. Афіцыйна я інструктар па спорту з акладам у 700 тысяч. Калі-некалі "халтуру"— перамагаю на спаборніцтвах. Сярэдні мясцовы прадпрымальнік зарабляе значна больш. За апошнія ўзнагароды нават і аднапакаёўку не купіш. З жонкай і дачкой жывем у маленькім пакойчыку інтэрната. На восем сем'яў—адна кухня, два душы, ажно чатыры туалеты.

***—А ты сам на дзяржаўным забеспячэнні?***

—Калі лічыць, што дзяржава— гэта я. Шыпоўкі, і тое сам купляю. У Атланце набыў даволі добрыя за 100 долараў. Каб быць у форме, трэба 2-3 разы на тыдзень рабіць масаж. Адзін сеанс каштуе 30-40 тысяч. Харчуюся таксама за свае.

***—Колькі трэба трэніравацца, каб стаць, як ты, чэмпіёнам свету, Еўропы, прызёрам Паралімпійскіх гульняў?***

—Разоў з 10 на тыдзень па тры гадзіны. Гэта ў спакойным рэжыме. А напярэдадні стартаў нагрузка значна ўзрастае.

***—Прабач, але інваліды губляюць сваё апошняе здароўе.***

—Спачатку займаліся, каб даказаць сабе сваю моц. Потым пайшлі вынікі. І сёння фізічна хворы па выніках ужо даганяе здаровых. У рэспубліцы чатыры прафесіяналы скачуць у даўжыню на 7,70. А я на 7,10. І выступаю ў некалькіх відах лёгкай атлетыкі. А каб займаўся толькі адным? У Атланце праплывалі дыстанцыю спартсмены, якія не мелі ні рук, ні ног (!). Фізічна мы саступаем, але духам, думаю, мацнейшыя.

*Гутарыў Васіль САВІЦКІ.*



## Тэрыторыя беспрацоўя

### За дзяржаву крыўдна

***СМАРГОНЬ. Раніцой шэсць аўтобусаў павезлі людзей на грамадскія работы: акрамя традыцыйнай працы на бульбяных палетках, будаваць ангары, царкву, укладваць бардзюры. Такіх "актыўных" беспрацоўных паўтары тысячы.***

***Даведка.*** *За апошнія гады закрыліся завод буйнапанельнага домабудавання (працавала 279 чалавек), домабудаўнічы камбінат (139), дапаможны цэх райсельэнерга (21), гандлёва-вытворчая фірма "Крыніца" (49). За паўтара года ВА "Завод аптычнага станкабудавання" скараціла 318 работнікаў, "Смаргоньсілікатбетон"— 57, Агрэгатны завод— 61.*

Вольга Міхальчанка, дырэктар рэгіянальнага цэнтра занятасці:

—Адну з сённяшніх наведвальніц запрасіла да сябе пажыць. Дзяўчына круглая сірата. Пасля Воранаўскага ПТВ размеркавалі ў Смаргонь. А тут сваіх муляраў хапае. Перанесла аперацыю на страўнік. Жыве ў павеці. Гардэроб— дзве сукенкі і адны басаножкі. Да нас не ішла, бо няма прапіскі. Холад набліжаецца. Не вытрымала.

У калідоры натоўп. Дзесяць спецыялістаў цэнтра працуюць не разгінаючыся. Стаяць людзі і да дырэктара. Маладзіца ў скуранай куртцы хапае за руку Міхальчанку:

—Дапамажыце менавіта мне. Я нядаўна атрымала дыплом повара, і ў СШ №5, куды вы накіравалі, магчыма, будзе конкурс. А я так хачу працаваць па спецыяльнасці.

Смаргонь— адзін з лідэраў у рэспубліцы па беспрацоўю.

***Даведка.*** *За пяць месяцаў 26 прадпрыемстваў спрацавалі стратна. За год вытворчасць на прамысловых прадпрыемствах зменшылася на 21,8 працэнта. А каэфіцыент смяротнасці ў раёне павялічыўся і складае 23,2 працэнта.*

—Афіцыйна зарэгістраваных амаль тры тысячы,— гаворыць В. Міхальчанка.— Больш за тысячу беспрацоўных стаяць на ўліку звыш гада. Ёсць тыя, хто спадзяецца на лепшае і чакае ўжо пяць гадоў. А вакансій сёння 66. І тыя вузкаспецыяльныя. Патрабуецца фармацэўт (даюць жыллё), геадэзіст, маркшэйдэр (работа з горнымі пародамі). Самае галоўнае для нас— перанавучыць людзей. Патрэбны будаўнікі ў Карэлію, Якуцію, Калінінград. За год мы прапануем на выбар да трыццаці спецыяльнасцей. Вучыся, мы аплачваем. Паспрабуй сябе ў індывідуальнай працоўнай дзейнасці. З пачатку года працаўладкаваны 961 чалавек.

***—Ёсць выпадкі сямейнага беспрацоўя?***

—Дастаткова. Акрамя гаспадара, гаспадыні, яшчэ і дзеці пасля заканчэння ВНУ не патрэбныя дзяржаве. Ды што казаць пра маладых спецыялістаў. У нас каля трохсот беспрацоўных з вышэйшай адукацыяй.

У калідоры нехта зазначыў: "Усе мы наведваем толькі прадуктовыя магазіны. І тое нерэгулярна". Сумна. І за дзяржаву крыўдна.

*Васіль САВІЦКІ.*

